

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Даволі цікавыя вынікі сацыялягічнага апытаньня агалошаныя на гэтым тыдні. Апытаньне праводзілася аблвыканкамаўскім сацыялягічным цэнтрам. Яно дэманструе, што сярод рэспандэнтаў на сёньня больш тых, хто прагаласуе за Лукашэнку (усяго 44,5%). Але гэта адзіная прыемная навіна для ўлады. Далей з апытаньня вынікае, што 49% пры тым мяркуе, што становішча ў краіне пагоршылася, а толькі 12% пагаджаюцца з тым, што жыцьцё добрае. Ажно 38% у адказе на гэтае пытаньне "ня вызначыліся".

14000 чалавек, насельніцтва сярэдняга райцэнтру, складае сёньня "насельніцтва" калёніяў і турмаў вобласьці. Гаротны гэты горад перанаселены супраць усіх нормаў і хворы на ўсё – ад СНІДу да трывалай наркаманіі. Ніводная праблема не вырашаецца, а толькі набывае моцы, бо ўся нашая сыстэма мае выразны карны, а не папераджальны кірунак. Нічога не чуваць і пра рэабілітацыйныя праграмы.

Магілёўскія кантралёры высьветлілі, што ў абласным цэнтры дрэнна працуюць цырульні. Па-першае, іх замала: за 10 гадоў колькасьць цырульняў зьменшылася з 1023 больш чым напалову. Па-другое, гэтыя цырульні працуюць у часы, нязручныя для кліентаў. Па-трэцяе, працуюць яны дрэнна, без павагі да тых, хто плоціць. Пра ўсё дазналіся кантралёры, акрамя таго, чаму так адбываецца. Падаецца, што адказ навідавоку: пры эканамічным крызісу, а ён у нас цягнецца амаль 7 год, першай здае пазыцыі сфэра паслугаў. І па "сваіх" прычынах, і па абыякавасьці спажыўцоў, бо людзям не да модных фрызураў.

Амаль 1360 непаўнагадовых магілёўцаў былі прыцягнутыя за паўгода да адказнасьці ... за п'янства. Увесь мінулы год даў лічбу крыху больш за 1200. Ясна, што прычыны гэтай грамадзкай трагедыі ў самім грамадзтве. Вось ізноў паўстае тэма прэзыдэнцкіх выбараў, бо толькі адказны, а не абыякавы выбар уратуе, калі ўжо ня ўсіх сталых людзей, дык хоць бы дзяцей.

Народны тэатар "Валянцін", які носіць імя свайго заснавальніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі і сябра нашай газэты Валянціна Ермаловіча, паказаў прэм'еру М. Матукоўскага "Апошняя інстанцыя". Але спачатку быў скандал. Кіраўніцтва гарадзкога Цэнтру вольнага часу спрабавала па-за рэжысэрам М.Бацэвічам разьмеркаваць паміж акторамі ролі ў гэтым спэктаклі. Калі акторы справядліва абурыліся гэткім чыноўным умяшальніцтвам, сп.Бацэвічу (дарэчы, ляўрэату фэстываляў і шматгадоваму актору гэтага калектыву) чыноўнікі ўстановы культуры (трэба было б узяць апошняе слова ў "") спрабавалі забараніць нават самое зьяўленьне ў тэатры. Толькі акторская і чалавечая салідарнасьць выратавалі тэатар, рэжысэра і яго прэм'еру. Дарэчы, удалую.

Адміністратыўная кампанія перасьледу маладых людзей, якія дзейнічаюць ад незарэгістраванага руху "Зубр", пачынае набываць ледзь не камічныя рысы. У мінулую суботу, напрыклад, паставымі міліцыянтамі былі затрыманыя некалькі падлеткаў нібыта за распаўсюджваньне спэцыяльнага выпуска газэты "Свабода" (з артыкулам-дыягназам) і за графіці "Час выбіраць" на сьцяне былых касаў Аэрафлёту. Спачатку хлопцаў даставілі ў Ленінскі РАЎС, але дзяжурны адмовіўся дапытваць затрыманых і нават удзельнічаць у складаньні пратаколу. Пры гэтым ён паведаміў калегам, што будынак, дзе былі касы, знаходзіцца на баку праспэкту Міра, які адносіцца да ... Цэнтральнага РАЎС. У гэтым аддзеле іншы дзяжурны не знайшоў ніякага, дастойнага пратаколу, парушэньня ў тым, што рабілі падлеткі. Праўда, балёнчык з фарбай адняў і пратрымаў хлопцаў да начы. А можа пачуцьцё міліцэйскага гумару тут ні пры чым, а па-просту меншае колькасьць "душыцеляў свабоды" у міліцэйскіх пагонах. Ах, кабы так!

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн*

## Калі адказваць сумленна

*"Ці верыце Вы ў магчымасьць павелічэньня сярэдняга заробку да 2006г. ў пяць разоў у выпадку пераабраньня А.Лукашэнкі прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусі?" – з такім пытаньнем да грамадзкіх лідэраў і экспэртаў зьвярнуліся супрацоўнікі Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледваньняў з нагоды афіцыйнага распаўсюджваньня такой праграмы.*

*На анкету адказалі 80 чалавек – лідэраў, якія прыкладна пароўну прадстаўляюць як дзяржаўныя, так і недзяржаўныя арганізацыі. 88% апытаных заявілі, што ня вераць у такую магчымасьць. З паверам да абяцаньняў паставіліся толькі 8% апытаных.*

***На пытаньне "Ці хацелі б Вы, каб А.Лукашэнка быў прэзыдэнтам краіны яшчэ адзін тэрмін?" 88% рэспандэнтаў адказалі адмоўна.***

*Паводле BARC-List*

## Па маралі і па закону

### Зянон Пазьняк абвесьціў выбарчае рашэньне

***З Варшавы прыйшло паведамленьне аб рашэньні З.Пазьняка прыняць прапанову Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі – БНФ аб ягоным вылучэньні кандыдатам на прэзыдэнта Беларусі. Эксклюзыўнае інтэрвію з гэтай нагоды сам лідэр партыі даў радыё "Свабода".***

**Карэспандэнт:** Якім чынам Вы можаце быць зарэгістраваны кандыдатам на прэзыдэнта, калі Вы знаходзіцеся за мяжой?

**Пазьняк:** Зарэгістраваны я магу быць па законе і па праву. І закон, і права, і мараль на маім баку. Калі яны мяне не зарэгіструюць, парушыўшы права, мараль, законнасьць, традыцыі, устаноўленыя ў палітыцы, то тым горш для іх. Ня думаю, што такімі дзеяньнямі рэжым можа выйграць і даказаць некаму, што выбары на безальтэрнатыўнай аснове ёсьць выбары дэмакратычныя.

**Карэспандэнт:** Каму зь цяперашніх патэнцыйных кандыдатаў Вы ў разе патрэбы аддалі б свае галасы?

**Пазьняк:** Цяперашнія кандыдаты, якія выказалі жаданьне ўдзельнічаць у выбарах, належаць да адной маскоўска-лукашэнкаўскай групы. І натуральна, што нават ставіць пытаньне аб тым, каму я, ці мы, партыя, маглі б аддаць галасы, выглядае жартам. Я і Вызвольны рух якраз выстаўляем нацыянальную альтэрнатыву ад беларусаў, ад беларускага народу, каб супрацьстаяць гэтым кандыдатам і гэтай палітыцы, маючы на ўвазе і Лукашэнку, і яго асяродзьдзе, і "пячэрку" намэнклятуры.

**Карэспандэнт:** Ці ў Вас ужо гатовая эканамічная праграма й якія яе асноўныя пункты?

**Пазьняк:** У мяне гэтая праграма гатовая яшчэ з 1994 года, калі я кандыдаваў на выбарах прэзыдэнта. І тады савецкі электарат выбраў Лукашэнку, выбраў іншую праграму. Вось за сем гадоў у гэтых людзей была магчымасьць пераканацца ў тым, хто меў рацыю. Хаця задача пераканаць у тым людзей зараз будзе яшчэ больш цяжэйшая. Але ёсьць усё, і ёсьць усе сілы і магчымасьці, каб Беларусі і беларускаму народу вярнуць прыстойнае жыцьцё за дастаткова хуткі час. Мне вядомыя тыя патэнцыйныя магчымасьці, якія можна пусьціць у ход.

*Размаўляў Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ*

**Ад рэдакцыі: Тым часам стала вядома, што сп-ня Ярмошына зьвярнулася ў Канстытуцыйны суд з запытам аб правамоцнасьці рэгістрацыі З.Пазьняка ў якасьці кандыдата на прэзыдэнта. Некалькі раней, як многія помняць, яна рашуча не сумнявалася ў тым, што прэтэнзіі лідэра Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі незаконныя. Аднак вырашаць адной аказалася ўсё ж боязна...**

## Моладзь прагне пераменаў

***У мінулую пятніцу ў памяшканьні мясцовай філіі БНФ "Адраджэньне" адбылася прэсавая канфэрэнцыя з удзелам лідэраў беларускай моладзевай кааліцыі "Пераменаў!" Паўла Севярынца і Алеся Карніенкі.***

Канфэрэнцыя адбылася з нагоды маючых адбыцца прэзыдэнцкіх выбараў. Як адзначылі маладыя лідэры, галоўнае – дамагчыся як мага большага ўдзелу моладзі ў выбарах. Прагучала лічба 80%. "Будзем праводзіць розныя шоў, канцэрты, імправізацыі, – зазначыў П.Севярынец. – Галоўнае – паказаць, што ёсьць людзі, якія жадаюць пераменаў". А.Карніенка паведаміў журналістам, што нядаўна ў Менску прайшла адна з сумесных моладзевых акцыяў – "Месячнік прэзыдэнта". Падчас яе правядзеньня не было затрыманьняў, а міліцыянты нават усьміхаліся з тых улётак, што раздавалі ім удзельнікі.

Госьці зазначылі, што шырокая мабілізацыйная кампанія сярод моладзі ўжо фактычна пачалася, прынамсі, у 70 гарадах Беларусі. Да таго ж, летнія ўмовы правядзеньня кампаніі не перашкодзяць яе актывістам, але наадварот – дапамогуць. Гэта вынікае з таго, што моладзь распачне вялікую агітацыйную кампанію якраз на вёсцы, сярод сваіх бабуляў ды дзядуляў, то бок сярод тых, хто лічыцца апірышчам сёньняшняга палітычнага рэжыму.

Напрыканцы прэс-канфэрэнцыі сталася зразумелым, што маладыя лідэры схіляюцца да двух кандыдатураў ад аб'яднанай апазыцыі – Сямёна Домаша ды Уладзімера Ганчарыка.

А ўвечары адбылася рабочая сустрэча прадстаўнікоў мясцовай кааліцыі "Пераменаў!" і яе кіраўнікоў, на якой таксама абмяркоўвалася пытаньне мабілізацыі моладзі да прэзыдэнцкіх выбараў.

***Н. ДЗІОНІК***



## Аб'яднаем свае высілкі!

"Viribus Unitis" (па нашаму "Аб'яднаныя высілкі") – назоў праекту, які пачаў рэалізоўвацца ў нашай краіне з дапамогі агенцтва ЗША па міжнароднаму развіцьцю (USAID) з удзелам амэрыканскай жа праграмы "Партнэрства Альянса Каўнтэрпарт". Кіруюць правядзеньнем праекту менскія арганізацыі – моладзевае грамадзкае аб'яднаньне "Новая група" разам з грамадзкім аб'яднаньнем "Моладзевы адукацыйны цэнтар "Фіальта".

Днямі ў Магілёве прайшла першая рэгіянальная рабочая сустрэча, на якой моладзь абмеркавала свае праблемы й шукала шляхі іхняга пасьпяховага пераадоленьня. Наогул, арганізатары моладзевых сустрэчаў лічаць, што толькі аб'яднаўшыся маладыя людзі змогуць годна вырашаць самыя розныя, у асноўным – складаныя сацыяльныя праблемы свайго сёньняшняга жыцьця. Падчас размовы не былі абмінутыя й надыходзячыя выбары ў краіне як адзін з варыянтаў, калі можна мабілізаваць маладую частку грамадзтва.

Але, каб вырашыць якую-кольвек праблему, трэба гэтага моцна захацець. Усе прапановы й выказваньні ўдзельнікаў сустрэчы з дапамогаю трэнэраў Кацярыны Касьцючэнкі ды Дзяніса Будкевіча занатоўваліся на аркушах паперы й вывешваліся на сьценах. Такім чынам, за два дні цікавай нефармальнай працы на сьценах памяшканьня зьявіліся новыя "шпалеры".

Гэтая сустрэча распачала сэрыю моладзевых дзелавых спатканьняў на Магілёўшчыне. Наступныя сустрэчы пройдуць для аўдыторыяў раённых цэнтраў.

***Дзяніс НОВІКАЎ, каардынатар праекту па вобласьці***



# Небясьпечныя “современные знания”...

*Абласную міліцыю ўзначаліў новы палкоўнік. Падчас знаёмства з калегіяй упраўленьня ўнутраных справаў, начальнікамі раённых міліцыяў і суседніх сілавых ведамстваў яго характарызавалі таксама станоўча, як і папярэдняга (С.Кураля), што адпрацаваў толькі крыху больш года ды "не апраўдаў". Ці ня надта часта ў нас не на сваіх месцах аказваюцца людзі й на значна больш высокіх пасадах?...*

*Аднак за кадравыя памылкі, недарэчнасьці і глупствы ніхто не нясе адказнасьці, як ніхто ў іх і не прызнаецца. Яно і зразумела, бо ўжо нават на другім прызнаньні аднаго і таго ж чалавека (а ў нас ён менавіта адзін) у тым, што "я памыліўся і больш ня буду", грамадзтву павінна быць альбо сьмешна, альбо нясьцерпна. Толькі ў нашай вобласьці колькі тых памылак! Новы палкоўнік, дарэчы, – чацьверты за лукашэнкаўскі час. А старшыня аблвыканкаму які?..*

*Іх ставяць і здымаюць па нейкіх сваіх правілах, сваіх матывах і сваіх настроях. Невыпадкова, што ніхто ў вобласьці не паверыў афіцыйнаму тлумачэньню апошняй палкоўнічай адстаўкі, якая адбылася нібыта па выніках анкетаваньня насельніцтва. Грамадзтва насамрэч ня мае ніякага ўплыву на цяперашнюю ўладу і ніякага да яе дачыненьня, як і яна, улада, адпаведна – да людзей. Так і жывем, паралельна...*

Организатор проекта "Свободный класс" ставит следующие цели:
- распространение современных знаний среди населения;
- повышение исторической, политической, экономической, правовой и экологической культуры;
-пропаганда ценностей демократии, свободного рынка и независимости Беларуси.

Для этого и был объявлен набор слушателей в "Свободный класс" молодых людей различных слоев общества, в основном старшеклассников общеобразовательных школ и студентов средних специальных и высших учебных заведений.

Учитывая изложенное, полагаю целесообразным:
- заместителям директоров учебных заведений по воспитальеной работе, классным руководителям проинформировать учащихся и их родителей во время проведения классных часов, родительских собраний об ответственности за данные противоправные действия.

Приложение: на 1 листе.

Заместитель начальника УВД [подпіс] Г.В. Саков

Усё напісанае вышэй, тым ня менш, толькі ўступ да тэмы гэтай нататкі. Тэма ж іншая, хаця й міліцэйская. Да нас патрапіў дакумэнт за подпісам намесьніка начальніка абласнога ЎУС Г.Сакава. Ён адрасаваны начальніку абласнога ўпраўленьня адукацыі В.Багданаву.

Дакумэнт, скажам прама, не жартоўны: **"О мерах по предупреждению фактов распространения печатной продукции антиправительственной направленности со стороны учащихся"** *(тут і далей цытаваныя вытрымкі падаюцца на мове арыгіналу)*. У данясеньні (мы не прыдумалі як інакш кваліфікаваць дакумэнт) прыводзяцца два выпадкі затрыманьня міліцыянтамі трох маладых бабруйчанаў і двух магілёўцаў **"во время распространения спецвыпуска газет "Весник" и "Рабочы"**. Што было напісана ў тых спэцвыпусках, нам невядома. Ведаем толькі, што "Рабочы" выдаецца зусім легальна і стаіць на абароне, як гэта сказалі б раней, рабочага клясу.

Уяўленьне пра тое, што сучасныя міліцыянты маглі палічыць "подрывной литературой", дае далейшы зьмест дакумэнта. Міліцыя, паведамляецца ў ім ніжэй, выявіла таксама **"ещё одну проблему"**. Увосень **"в городе появились листовки о создании "Свободного класса". Проверкой сотрудниками УВД было установлено, что инициатором данной акции выступила городская неформальная организация "Таварыства філаматаў"**.

Заўважым, што "устанавливать" нічога ня трэба было, бо, наколькі нам вядома, абвесткі пра заняткі й былі падпісаныя гэтым таварыствам. Больш таго, у праграме заняткаў, таксама ***адкрыта***, абвяшчалася, што цікаўным маладым магілёўцам будуць прапанаваныя лекцыі і дыскусіі па актуальных праблемах грамадзкага жыцьця, а выкладчыкамі і гасьцямі "Свободного класса" (па-беларускі "Вольнай клясы") будуць – так і было! – вядомыя навукоўцы, грамадзкія дзеячы, пісьменьнікі. Інакш кажучы – афіцыйныя людзі, а ня нейкія там агенты ўплыву для падрыўной працы. (Не называем іхных прозьвішчаў і пасадаў, бо ўпэўненыя, што міліцыя іх таксама "установила").

Што ж было мэтай і сапраўды было пачута, усьвядомлена і абмеркавана моладзю – у свой вольны час, замест бадзяньня па вуліцах – падчас восеньскіх заняткаў? Міліцэйскі дакумэнт старанна перапісаў праграму і даносіць пра яе адукацыйнаму ведамству:

**– распространение современных знаний среди населения**

**– повышение исторической, политической, экономической, правовой и экологической культуры**

**– пропаганда ценностей демократии, свободного рынка и независимости Беларуси.**

... Хоць дзесяць разоў перачытайце, як гэта зрабілі мы, – ня знойдзеце ніякай небясьпечнай крамолы для душаў і галоваў студэнтаў і старшаклясьнікаў, якія праявілі цікавасьць да гэтага інтэлектуальнага курсу навучаньня. А вось міліцэйскі начальнік угледзеў і па-сяброўску (хаця ў афіцыйнай форме) данёс пра тое начальніку аблана. Мала таго, сюды ж дададзеныя вытрымкі з Адміністратыўнага кодэксу з артыкуламі пра адказнасьць за розныя "палітычныя" парушэньні. Адукацыйны начальнік у сваю чаргу (бо сур'ёзная справа!) накіраваў міліцэйскае данясеньне з дадаткам па раённых падначаленых структурах...

Тым часам аблвыканкам на падставе аналізу сытуацыі зь сёлетняй моладзевай злачыннасьцю і крымінальнымі праявамі вымушаны быў днямі ўвесьці адміністратыўныя абмежаваньні на вечаровае знаходжаньне падлеткаў на вуліцы, як сказана ў адпаведным рашэньні, "без сопровождения взрослых". Толькі падаецца, што многія дарослыя пад гэты час самі патрабуюць пільнай увагі. А моладзі падацца, каб заняць сябе нечым прыстойным, няма куды: "Вольная кляса" зачынілася.

Хочацца, праўда, спадзявацца, што толькі да восені. Бо верыцца, што грамадзтву спатрэбяцца менавіта тыя людзі, якія засвоілі сапраўды ***сучасныя веды.***

***Генадзь СУДНІК***



**Год таму, 7 ліпеня 2000 г. зьнік наш калега, вядомы тэлеапэратар**

**Дзьмітры Завадзкі**

***Грамадзтва не забылася. Грамадзтва патрабуе адказу і пакараньня вінаватых!***

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...зь Бялынічаў



***Паводле традыцыі, для работнікаў калгасаў і саўгасаў настала яшчэ адна нялёгкая часіна – сенажаць.***

Ува ўсіх, бадай, гаспадарках раёну зараз ламаюць галаву над тым, дзе адшукаць грошы і сілы, каб накасіць травы і назапасіць зь яе кармоў на зімоўку для скаціны. А грошай тых спатрэбіцца нямала. У райсельгасхарчы падлічылі, што ў падрыхтоўку й правядзеньне ўсяго аб'ёму корманарыхтоўчых работ неабходна ўкласьці, па сама сьціплых падліках, больш за паўмільярда руб., бо толькі паліва для тэхнікі будзе каштаваць 430 мільёнаў. Чакаецца, што ад рэалізацыі малака й мяса калгасныя касы напрыканцы чэрвеня папоўняцца якраз на такую суму. Але ж новая навала: палову з іх гаспадаркі вінныя мясцоваму сыраробчаму заводу, у якога пазычалі грошай на веснавую палявую кампанію.

***З інтэрвалам усяго ў адзін дзень дзьве гаспадаркі ў раёне пазбавіліся сваіх кіраўнікоў.***

Паводле афіцыйнай вэрсіі на падставе пададзенай заявы вызвалены ад пасады дырэктар саўгаса "Эсьмоны" Рыгор Барысёнак. А праз дзень кіраўнічай пасады пазбавіўся і дырэктар саўгаса "Бялынічы" Аляксандар Жураўлеў. Калі апошні адстаўнік пакіраваў гаспадаркай крыху больш за год, дык знакаміты Барысёнак узначальваў саўгас амаль чвэрць стагодзьдзя. Аднак, што тычыцца стану гаспадарак, абедзьве аднолькава ня зводзяць канцы з канцамі.

***Апэратыўна адрэагавалі на заклік краязнаўцы А.Марозава сябры мясцовага краязнаўчага таварыства.***

Цяпер заканчваецца падрыхтоўка да талакі, удзельнікі якой навядуць парадак на Ільінскай гары – там, адкуль у пракаветныя часы пачалося засяленьне Бялынічаў. Сярод тых, хто адгукнуўся на заклік краязнаўцаў, прадстаўнікі "Маладой грамады", суполак ТБМ, БАЖу, гарадзкой арганізацыі БСДП (НГ). Але цікавейшым ёсьць той факт, што праявіла інтарэс да талакі "неарганізаваная моладзь" райцэнтра. Некалькі навучэнцаў мясцовага ПТВ-217 і старшаклясьнікаў з СШ №1 заявілі аб намеры далучыцца да карыснай справы.

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***

### ...з Горак

***Гісторыя Беларусі ўжо не патрэбная! – так вырашыла прыёмная камісія Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі.***

Згодна з новымі галіновымі стандартамі, іспыты па гэтай дысцыпліне для некаторых спэцыялізацыяў эканамічнага і бухгалтарскага факультэтаў замененыя на замежную мову і матэматыку.

***Гарадзкая ініцыятыўная група па вылучэньні кандыдатам на пасаду прэзыдэнта З.Пазьняка складаецца з 21 чалавека.***

14 чалавек будуць зьбіраць подпісы на карысьць С.Домаша. Група па збору подпісаў на карысьць М.Чыгіра складаецца з 5-ці чалавек. Пра агітатараў за іншых кандыдатаў пакуль нічога не чуваць.

***Асацыяцыя ўстойлівага разьвіцьця зладзіла чарговы тыднёвы студэнцкі летнік. Гэтае традыцыйнае мерапрыемства ня мае аналягаў у нашай краіне.***



Галоўнае, чаму навучаюцца ўдзельнікі летніка-сэмінара – прагназаваць будучыню нашай планэты і нават будучыню кожнага куточка нашага рэгіёна.

***1 чэрвеня ў Дзіцячым парку ўзброеныя міліцыянты гвалтоўна спынілі беларускамоўнае сьвята.***

Затрыманым маладым арганізатарам было выстаўленае абвінавачваньне ў распаўсюдзе "антылукашэнкаўскай інфармацыі". Пад гэта падпала нават даволі вытрыманая "Народная Воля", да таго ж, як вядома, афіцыйна зарэгістраваная.

***Віктар КАРАЛЬКОЎ***

# Доўгі шлях да праўды

Больш за два гады жыхар Крычаву Ўладзімер Марачкоўскі шукаў справядлівасьці ў праваахоўчых органах усіх узроўняў.

Справа пачалася ў жніўні 1998-га, калі Ўладзімер у якасьці аматарскага кінаапэратара здымаў вясельле крычаўца С.Тарасава. Некаму тое моцна не спадабалася. Падчас працы яго ўсяляк абражалі, нават спрабавалі зьбіць. Каб абараніць свае правы, чалавечы і грамадзянскі гонар, У.Марачкоўскі двойчы зьвяртаўся ў міжрайпракуратуру. Але, як часьцяком бывае ў падобных выпадках, "факты не знайшлі пацьверджаньня". Звароты ў абласную і рэспубліканскую пракуратуры таксама выніку не далі.

Тады, пасьля адкрыцьця ў Менску прававога аддзелу пры місіі АБСЭ, Уладзімер Марачкоўскі з дапамогаю крычаўскіх праваабаронччых актывістаў зьвярнуўся туды з адпаведнаю заяваю. Супрацоўнікі АБСЭ, згодна з сваім міжнародным статусам, зрабілі запыт да нашых уладаў наконт праведзеньня дасканалага сьледзтва па заяве пацярпелага. Аднак улады працягнулі гуляць у папяровы "футбол".

Рэспубліканская пракуратура перадала справу ў абласную, а тая, паводле бюракратычных традыцыяў, абавязала разабрацца крычаўскую. Апошняя, зразумела, адказала таксама, як два гады таму... Крычаўскія праваабаронцы вырашылі не адступаць: на просьбу Ў.Марачкоўскага, які працягвае верыць у справядлівасьць, рыхтуюцца дакумэнты на ўсю гэтую валакіту ў суд.

***Лявон СЬВЕЦІК***

**ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА**



КАНСЫЛІЮМ

# Аргумэнты і факты

***У абласным цэнтры нядаўна нарадзілася грамадзкая арганізацыя, што адразу зьвярнула на сябе зацікаўленую і добразычлівую ўвагу як калегаў па недзяржаўнай сфэры дзейнасьці, так і мясцовых дзяржаўных прафэсійных прадстаўніцтваў. Група мэдыкаў з ініцыятывы доктара Сяргея Кунцэвіча ўтварыла з дапамогаю ГА "Кола сяброў" свой "Лекарскі саюз". Новая суполка прайшла адпаведную дзяржаўную рэгістрацыю, атрымала грантавую падтрымку ад знакамітай амэрыканскай праграмы "Альянс Партнэрства Каўнтэрпарт", арэндавала офіс, пачала выдаваць інфармацыйны бюлетэнь "Калегі". Цяжка ўзгадаць іншую грамадзкую арганізацыю, якая б пачала дзейнасьць настолькі ж энэргічна і заўважна. Выглядае, што найбольш спрыяюць гэтаму прафэсійная вызначанасьць суполкі і яе непалітычнасьць. Апошняе, аднак, ня трэба разумець як адсутнасьць грамадзянскай пазыцыі ўвогуле: якраз яна была заяўленая й лекары аб'ядналіся вакол яе. А пачалося з высьвятленьня таго, што думаюць мэдычныя работнікі аб сабе і жыцьці, што іх хвалюе, у чым яны бачаць пэрспэктыву. Напярэдадні прафэсійнага Дня, які адзначаецца ў бліжэйшую нядзелю, убачыў сьвет першы нумар бюлетэню "Лекарскага саюзу" зь некаторымі адказамі на гэтыя пытаньні. Папярэдне ў некаторых лекарскіх установах горада была распаўсюджаная Анкета. Ніжэй са згоды "ЛС" мы прапануем камэнтар да яе, паколькі ўпэўненыя, што ведаць грамадзтву аб доктарскіх клопатах, непакоях і думках ня толькі цікава, але й трэба.***

У апытаньні прынялі ўдзел супрацоўнікі стацыянараў абласной і гарадзкой больніцаў, МСЧ "Хімвалакно", а таксама паліклінікаў гораду. Дактары станоўча ўспрынялі самую ідэю і, падаецца, даволі шчыра адказалі на пытаньні.

Відавочна, што лекары, як і ўсё грамадзтва, маюць фінансовыя праблемы, а па-просту – ім, як усім іншым, не хапае грошай. Незадаволеныя ўзроўнем аплаты сваёй працы – 91% апытаных, 8% не змаглі вызначыцца, і толькі 1% – цалкам ёю задаволеныя. Якой сумы хапіла б нашым лекарам пры сёньняшніх спажывецкіх і камунальных цэнах? Трэба адзначыць, што знакамітыя 100$, абвешчаныя "галоўнай беларускай марай 2001 году", ужо мала каго задавальняюць. Тым больш, што рэальныя даходы многіх дактароў (за кошт напружаньня і перапрацовак) даўно перавалілі гэтую мяжу. У адказах на анкету на ўзроўні 100-150$ спынілі свой выбар 4% апытаных (магчыма, гэта інтэрны ці маладыя эскулапы, для якіх і 50 тыс. руб. – салідная сума). Але для хірурга вышэйшай катэгорыі гэта, выбачайце, капейкі. І сапраўды (адна з галоўных нечаканасьцяў апытаньня!), 50% дактароў лічаць, што іх стажу і кваліфікацыі адпавядаў бы заробак больш як у 400$. Яшчэ 46% ацанілі сваю працу ў цьвёрдыя 150-400$ у месяц. Характэрна, што больш высокія патрабаваньні да ўзроўню заробку ў стацыянарах, дзе большы працэнт спэцыялістаў з вышэйшай катэгорыяй (17% супраць 9% у паліклініках), але незадаволенасьць сёньняшнімі даходамі ў паліклініках нават вышэй – 95%. Так што ёсьць над чым задумацца нашым палітыкам, эканамістам ды іншым "адказным таварышам", якія лічаць працу лекара больш лёгкай і менш каштоўнай, чым праца каго іншага, прыкладам, міліцыянта...

Зусім лагічным становіцца і наступны вынік – лекары чакаюць пераменаў. За іх выказаліся 96% апытаных, сумняваюцца 3%, а супраць пераменаў – толькі 1%. На першым месцы – рэформа аплаты працы (65 рэспандэнтаў), на другім – увядзеньне страхавой мэдыцыны (59 рэспандэнтаў), на трэцім – рэфармаваньне структураў органаў аховы здароўя (44 рэспандэнты ня вельмі любяць у нас сёньняшняе чынавенства!), і зь вялікім адставаньнем – прыватызацыя ў мэдыцыне (18 апытаных).

Наступнае пытаньне, падаецца, выклікала ў некаторых дактароў насьцярожанасьць сваёй "палітычнасьцю". Усё ж адказалі на яго 95%. Вось яно: "Якім чынам можна дасягнуць пераменаў і рэформаў?" Найбольш папулярны адказ – "аб'яднацца з калегамі, далучыцца да грамадзкай ініцыятывы або арганізацыі". На другім месцы – "зрабіць асабісты сьвядомы выбар падчас прэзыдэнцкіх выбараў", на трэцім – "давесьці свае патрэбы да ведама кандыдатаў у прэзыдэнты", на чацьвертым – "давесьці іх да ведама ўладаў", і на пятым – "зьвярнуцца ў сродкі масавай інфармацыі".

Больш адназначнымі былі дактары ў прафэсійных праблемах. Пытаньне: "Якіх пераменаў вы жадалі б ва ўласнай кар'еры?" прынесла ўпэўненыя меркаваньні аб неабходнасьці "павысіць сваю кваліфікацыю", і літаральна адзінкавыя – "пакінуць усё як ёсьць" і "прасунуцца далей па службовай лесьвіцы". Шмат было выказана жаданьняў "павучыцца або папрацаваць за мяжой". Жаданьне не такое і фантастычнае, але й ня вельмі зьдзяйсьняльнае для звычайнага беларускага лекара.

Былі ў анкетах прапановы для тэматыкі інфармацыйнага бюлетэня "Калегі". Лідэрам стала тэма "Навіны сусьветнай мэдыцыны", што сьведчыць ня толькі пра цікавасьць да таго, чым жыве прафэсійны лекарскі сьвет, але і пра тое, што адсутнічае ў нас сыстэма інфармаваньня. Сёньня маладаступныя пэрыядычныя выданьні, мэдычная літаратура, ня кажучы ўжо пра інтэрнэт альбо электронныя крыніцы інфармацыі. Цікава й тое, што вельмі значная колькасьць дактароў выказалася за тэму "Лекар у грамадзтве".

Да якіх жа высноваў можна прыйсьці, чытаючы анкеты?.. Па-першае, існуе вялікая незадаволенасьць лекараў сваім матэрыяльным становішчам, асабліва ў параўнаньні з цывілізаваным сьветам. Ад яго, гэтага сьвету, да нас, на думку лекараў, перайшлі пакуль толькі цэны, а даходы засталіся роднenькімі, савецкімі. Па-другое, ёсьць вялікае чаканьне пераменаў. Але якімі яны павінны быць і як іх дасягнуць – пакуль уяўляюць сабе ня многія. Актыўна і сьвядома ўдзельнічаць у рэфармаваньні галіны, не гаворачы пра "сацыяльна-грамадзянскае наваколье", гатовая толькі невялікая частка дактароў. Да рэформаў "зьверху" падрыхтавана значна больш людзей, і то – добра! Па-трэцяе, "палітызаванасьць" мэдычнага асяродзьдзя прыкладна такая ж, як і ў іншых сацыяльных групах. Аднак каля 40% апытаных непасрэдна зьвязваюць свае надзеі на перамены з магчымі адбыцца прэзыдэнцкімі выбарамі. Ці шмат гэта? Прызнаем, што лекары – і хутчэй за ўсё гэта станоўчы момант – ня самая радыкальная частка грамадзтва. Яны не страйкуюць і ня ходзяць на маніфэстацыі. Яны больш мяккімі сродкамі ўздзейнічаюць на ўладу і на тых, ад каго залежаць перамены. І прэзыдэнцкія выбары для іх – добры момант для лабіраваньня інтарэсаў і праблемаў лекарскай грамады.

Як тое будзе, паглядзім...

***Васіль АЎРАМЕНКА,***
***доктар, сябра***
***Аналітычнай групы***
***"Лекарскага саюзу"***

№ 1 чэрвень

КАЛЕГІ

Інфармацыйны бюлетэнь ГА «Лекарскі саюз»

Магілёў год 2001

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Асіповічаў



***3 чэрвеня ў вёсцы Вязаўніца адбыўся фэст фальклёрных калектываў раёна пад назвай "Вясновыя колеры". Дыплёмы атрымалі ўсе калектывы Асіповіччыны.***

Аднак мясцовы гурт, які абараняў на гэтым фэсьце званьне Народнага, не атрымаў нічога. І вось чаму. Акампаніятарам гурта ёсьць Сьцяпан Саханчук, які яшчэ зьяўляецца сябрам Таварыства Філяматаў і кіраўніком, на думку ўлады, "апазыцыйнага" гурта "Куцьцякі". Сьцяпана без усялякіх падставаў неаднойчы пазбаўлялі прэміі па ініцыятыве загадчыка раённага аддзела культуры В.Налівайкі, які да таго ж, як ведае ўвесь раён, ня надта саромеецца ў падборы слоў, калі гаворыць з падначаленымі.

***Рыгор ЛАТЫШЭВІЧ***

### ...з Мсьціслава



***7 калгасаў і саўгасаў раёна ня маюць дазволу на спэцводакарыстаньне, аднак працягваюць безкантрольнае забруджваньне мясцовых вадаёмаў.***

Абыякавае стаўленьне да навакольнага асяродзьдзя, такім чынам, уласьцівае ня толькі жыхарам нашых вялікіх гарадоў, але і правінцыялам. Тут галоўнае – жаданьне, нават калі няма вялікіх магчымасьцяў. Шмат хто пасьвіць жывёлу проста на берагах рэк. Лічыцца, што лепш пэрыядычна плаціць штрафы. Тым больш, што памер таго штрафу – сьмеху варты.

Не адстае ад вёскі і раённы цэнтар. На сёньня ў гарадзкіх каналізацыйных сьцёках канцэнтрацыя шкодных для здароўя чалавека рэчываў перавышае максымальна дапушчальную норму ня менш чым у 3 разы. Прыкладна ў такім жа стане рэчка Віра...

***Андрэй КУЗЬМІН***

## Можа зробіць хто іншы?...

Асіповіцкі шклозавод "Кастрычнік" можа быць зачынены ўжо бліжэйшым часам. Прадпрыемства мае вялікую запазычанасьць за паліва і электраэнэргію, амаль не атрымлівае грошай за ўласную прадукцыю з прычыны таго, што вялікая доля сыравіны рэалізуецца па бартэры. На заводзе адключаныя нават тэлефоны. Яшчэ горш тое, што выпрацаваныя ўсе рэзэрвы сыравіны. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, верагоднае закрыцьцё "Кастрычніка" адбудзецца ў аднайменным месяцы ці ў лістападзе.

Ня можа вырātаваць рабочых ад страты працы й канадзка-амэрыканская фірма *"Канс'юмэрз"*, нягледзячы на тое, што ўжо ўклала ў завод 6,5 млн. даляраў. Гэтыя сродкі не далі патрэбнай аддачы, бо папросту ляснулі як у прорву, а для новых укладаньняў няма дакладнай прававой інвэстыцыйнай базы. (Нагадаем, што па гэтай жа прычыне зьбег з краіны завод па зборцы "беларускага "Форду").

Адзінае спадзяваньне працаўнікоў – што сытуацыя ў лепшы бок зьменіцца з прыходам да ўлады ў краіне новага кіраўніцтва. Пакуль жа кожны сам ратуецца як можа, бо шмат хто думае, што нехта іншы мусіць забясьпечыць гэты самы прыход...

***Рыгор ЛАТЫШЭВІЧ***



## Адкуль бярэцца папулярнасьць

Адным з клопатаў аблвыканкама ў гэтыя дні ёсьць пасьпяховае завяршэньне падпісной кампаніі на дзяржаўныя выданьні. Каб кіраваць гэтай справай нават утвораны абласны штаб з чыноўнікаў адпаведных ведамстваў. Плян (менавіта – плян!) патрабуе, каб вобласьць выпісала ўсяго каля 80.000 асобнікаў газэтаў, якія выдаюцца за кошт дзяржаўнага бюджэту. Больш палова з гэтай лічбы выпадае на "Советскую Белоруссию".

Аднак пакуль плян выконваецца ня вельмі шпарка. Замінаюць пераможным лічбам бедныя калгасы, вясковыя ды й гарадзкія бібліятэкі, прадпрыемствы, дзе няма грошай нават на выплату людзям заробку. Прычыны гэтыя маркуецца пераадолець на выязным адмысловым сэмінары-нарадзе раённага начальства, што будзе скліканы ў Круглым. Пра тое, якімі мэтадамі можа быць забясьпечанае гэтае пераадоленьне, гаворыць той факт, што за мінулую падпіску розныя арганізацыі вобласьці засталіся віннымі "Белпошце" больш як 120 млн. рублеў.

***Паводле BARC-List***

Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА
«КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў,
вул. Першамайская,
6-22.



Тэл./факс: 31-04-15,
22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 3. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 14.06.2001 г. а 17.10.